РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 54 (7867) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 15 ліпеня 2000 г. Цана 25 руб.

# ТЫДЗЕНЬ АДКАЗНЫХ РАБОТНІКАЎ РАЙВЫКАНКАМА

Раённы выканаўчы камітэт у гэтыя дні прыняў шэраг неабходных мер па завяршэнню падрыхтоўкі аграпрамысловага комплексу да ўборкі ўраджаю збожжавых культур. Старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў правёў на бягучым тыдні аператыўную нараду з кіраўнікамі калгасаў, прадпрыемстваў і арганізацый. Заслуханы паведамленні старшынь гаспадарак аб гатоўнасці збожжавых камбайнаў. Гаспадаркам дадзены сціслы тэрмін для завяршэння гэтай работы.

Падрыхтоўка парка камбайнаў сёлета ажыццяўляецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі, якія прад'яўлены кіраўніцтвам вобласці на спецыяльным нядаўнім семінары, што адбыўся ў Магілёўскім раёне. У прыватнасці, удзяляецца асаблівая ўвага забеспячэнню якаснага рамонту, тэхнічнай гатоўнасці наяўных агрэгатаў. Пры гэтым камбайны аснашчаюцца ўсім неабходным, старанна ўшчыльняюцца, каб не дапусціць страт зерня пры ўборцы і абмалоце збажыны. Адчувальную дапамогу аказваюць калгасам прамысловыя прадпрыемствы, арганізацыі, якія ўзялі расходы па набыццю матэрыялаў, спецыялістаў на сябе, абсталявалі "свае" замацаваныя камбайны.

Старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў, першы намеснік старшыні выканаўчага камітэта, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання В. Л. Грышанаў прынялі ўдзел у названым вышэй абласным семінары і зараз кантралююць ход выканання задач, пастаўленых урадам, кіраўнікамі вобласці, а таксама рашэння раённага выканаўчага камітэта па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення жніва, закупак збожжа. Менавіта ўборцы былі прысвечаны пасяджэнні раённага штаба, якія праходзяць пад старшынствам М. Р. Барысава кожную раніцу. Рэгулярна ў замацаваныя калгасы выязджаюць кіраўнікі раёна, работнікі райсельгасхарчу, члены тэхналагічных груп. Вялікі ўклад у справу падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю ўносяць абслугоўваючыя арганізацыі: ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга", калектыў аграпрамтэхзабеспячэння і іншыя.

13 ліпеня г.г. на базе калгасаў "Прагрэс", "Парыжская камуна", "Дуброва" прайшоў раённы семінар, падрыхтаваны райсельгасхарчам. Яго ўдзельнікі – кіраўнікі і спецыялісты калгасаў, прадпрыемстваў, арганізацый, зацікаўленых служб практычна азнаёміліся, як павінны быць падрыхтаваны збожжавыя камбайны, гаспадаркі ў цэлым да жніва. Удзел у рабоце семінара прынялі М. Р. Барысаў і В. Л. Грышанаў, якія паставілі перад гаспадаркамі канкрэтныя задачы, адказалі на пастаўленыя пытанні.

На раённым семінары абмеркаваны таксама актуальныя пытанні далейшага развіцця жывёлагадоўлі, прааналізаваны вынікі работы за першае паўгоддзе.

Як вядома, 12 ліпеня 2000 года ў раёне праведзены Адзіны дзень інфармавання насельніцтва. У Касцюковічы прыбыла група адказных работнікаў абласнога выканаўчага камітэта. Разам з імі шэраг працоўных калектываў горада і сяла наведалі старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў, старшыня раённага Савета дэпутатаў М. С. Трубчык, члены раённага выканаўчага камітэта. Сустрэліся з калектывамі ўдзельнікі інфармацыйных груп раёна.

Размова ішла аб выніках работы па сацыяльна-эканамічнаму развіццю ў Рэспубліцы Беларусь, вобласці і раёне, а таксама падрыхтоўцы да выбараў у Нацыянальны сход краіны.

Зараз райвыканкам і асабіста старшыня вядуць работу і ў іншых важнейшых напрамках. Так, надаецца надзвычай важнае значэнне дастатковаму забеспячэнню жывёлы кармамі на будучую зімоўку. Калгасы з дапамогай шэфаў завяршылі першы ўкос траў. Нарыхтавана значная колькасць сена і сенажу. Праўда, гэта менш, чым трэба. Таму неабходна правесці другі ўкос.

Трэба неўзабаве пачаць уборку кукурузы, пад якой сёлета плошчы расшыраны ўтрая ў параўнанні з мінулагоднімі. Вырашана стварыць на базе абслугоўваючых сельскую гаспадарку гарадскіх арганізацый і калгасаў механізаваныя атрады па нарыхтоўцы сіласу. Гэта дапаможа калгасам выслабаніцца і сканцэнтраваць усе намаганні на ўборцы збожжавых культур, правядзенні асенняй сяўбы, не допусціць страт корму. Дарэчы, распрацаваны рабочы план сяўбы жыта і пшаніцы пад ураджай будучага года. Цяпер калгасы вядуць ворыва глебы.

За апошні час райвыканкамам прыняты шэраг рашэнняў, якія публікуюцца ў друку. У тым ліку ажыццяўляюцца мерапрыемствы па падрыхтоўцы камунальнай гаспадаркі да ацяпляльнага сезону, выкананню плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця раёна.

Некалькі важных пытанняў будзе разгледжана на маючым адбыцца ў ліпені планавым пасяджэнні райвыканкама.

## АДЗІНЫ ДЗЕНЬ ІНФАРМАВАННЯ НАСЕЛЬНІЦТВА

# ХЛЕБАРОБАМ БЫЦЬ І ВЫБАРШЧЫКАМІ

Пярэддзень жніва. Дарагая кожная гадзіна, якіх так мала для таго, каб паставіць у строй усе камбайны. Таму механізатары, спецыялісты спяшаюцца: збожжа не церпіць спазнення...

На машынным двары калгаса "Парыжская камуна" з самага ранку – усе, каму тут належыць быць. Камбайнеры з памочнікамі, работнікі інжынернай службы заняты рамонтам, ухіляюць тэхнічныя няспраўнасці, рыхтуюць да выхаду ў поле кожны палявы карабель.

І вось іх папрасілі мясцовыя кіраўнікі крыху перадыхнуць, сабрацца прама тут, на заасфальтаванай пляцоўцы, на некалькі мінут. Справа ў тым, што прыехалі сюды начальнік упраўлення юстыцыі аблвыканкама Аляксандр Сяргеевіч Маймусаў і старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Сцяпанавіч Трубчык з нагоды правядзення Адзінага дня інфармавання насельніцтва, як дакладчыкі.

Старшыня райсавета прадставіў госця з вобласці, назваў галоўную тэму размовы. Звяртаючыся да прысутных, А. С. Маймусаў сказаў, што ён уваходзіць у склад інфармацыйнай групы аблвыканкама, куды якой старшыня абласнога выканаўчага камітэта Міхаіл Уладзіміравіч Дражын. Такім чынам, усе просьбы, што будуць, магчыма, выказаны прадстаўнікамі калгаса, пастараецца перадаць губернатару для вырашэння.

Аляксандр Сяргеевіч затым паведаміў удзельнікам сходу самае неабходнае аб прадстаячых выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Як вядома, 13 ліпеня апублікаваны Указ Прэзідэнта аб назначэнні выбараў. Яны адбудуцца 15 кастрычніка 2000 года.

Пачалася актыўная падрыхтоўка да выбараў. Наш раён сумесна з Хоцімскім, Краснапольскім, Клімавіцкім увойдзе ў адну з выбарчых акруг. У наступным месяцы пачнецца вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты. Трэба выбраць у парламент дастойных людзей, прыняць актыўны ўдзел у гэтай важнейшай палітычнай кампаніі. Будучыя дэпутаты будуць працаваць у Палаце прадстаўнікоў на прафесійнальнай аснове.

А. С. Маймусаў – упаўнаважаны аблвыканкама, замацаваны за раёнам, курыруе пытанні сацыяльнага і эканамічнага развіцця. Ён добра ведае нашы праблемы. Заўважыў, што з 123 камбайнаў у гаспадарках гатова толькі 64 працэнты. Як бачна, яшчэ трэба немала папрацаваць, каб прывесці тэхніку ў спраўны стан. З абласнога бюджэту выдзелена на рамонт уборачных агрэгатаў 700 мільёнаў рублёў. Сродкі накіроўваюцца на рахункі спецыялізаваных рамонтных прадпрыемстваў. Бадай, гэта не зусім рацыянальна, паколькі ёсць нараканні на якасць рамонту вузлоў і агрэгатаў машын. Відаць, такі парадак хутка будзе перагледжаны.

Па папярэдніх дадзеных, у вобласці сёлета мяркуецца сабраць каля 1 мільёна тон збожжа. Ураджай азімых на палях гаспадарак сфарміраваўся добры. Някепскія віды і яравых збожжавых. Цяпер галоўная задача хлебаробаў – убраць усё вырашчанае без страт і захаваць.

Прадстаўнік вобласці ў ходзе звычайнай гутаркі цікавіўся жыццём калгаснікаў, заробкамі. Ён паведаміў, што абласное кіраўніцтва надае вялікае значэнне ліквідацыі неплацяжоў, даўгоў суб'ектаў гаспадарання. У прыватнасці, намячаецца ў гэтыя дні завяршыць аплату за закупленае малако ў насельніцтва. Запазычанасць ААТ "Касцюковіцкі малаказавод" перад малаказдатчыкамі складае амаль 50 мільёнаў рублёў.

Затым на сустрэчы выступіў старшыня раённага Савета дэпутатаў М. С. Трубчык, які, да таго ж, курыруе тэхналагічнай групай, замацаванай за калгасам. Ён адзначыў, што ў "Парыжскай камуне" расце ўраджай збожжавых прыкладна на 30 цэнтнераў. Вельмі важна, каб усё зерне, без страт, паступіла ў склад. Механізатары актыўна папрацавалі на палях у час веснавой сяўбы, заклалі надзейную аснову ўраджаю. Пастараліся і на ўборцы траў, нарыхтоўцы сенажу, сена. Зараз трэба давесці да ладу кожны камбайн, агрэгат, збожжавы комплекс, аўтамабіль, затым неабходна арганізавана, своечасова і без страт убраць ураджай.

Калгасу дапамогуць у гэтым шэфы: раён газазабеспячэння, абодва раённыя вузлы сувязі, ДРБУ-130. Яны, дарэчы, выдзяляюць сродкі на набыццё матэрыялаў для падрыхтоўкі камбайнаў.

М. С. Трубчык выказаў надзею, што механізатары калгаса не падвядуць на гэты раз, як было і раней.

Трэба дадаць, што прысутнічала больш як 30 чалавек. Атрад механізатараў баяздольны. Яны задалі прадстаўнікам органаў улады некалькі актуальных пытанняў: ці будзе паліва для правядзення ўборкі, па якой цане яго можна набыць? (вельмі ж дорага каштуе!) Сапраўды, калгас затрачвае ўсю выручку ад рэалізацыі прадукцыі на набыццё неабходнага. Часам не хапае сродкаў на выплату зарплаты. На гэтыя і іншыя пытанні былі дадзены адказы.

Пасля сходу адбылася гутарка з кіраўнікамі і спецыялістамі калгаса.

**Мікалай ДЗЯТЛАЎ.**

## ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА

**Стараюцца механізатары калгаса "Парыжская камуна", каб калгасная жывёла ўзімку не адчувала недахопу кармоў. Напрыклад, Уладзімір Кружаеў заняты зараз касьбой траў на самаходнай касілцы Е-302. Зараз ён нарыхтоўвае травы для сенажу, а таксама для падкормкі жывёлы. На рахунку Уладзіміра Кружаева 230 гектараў скошаных траў.**

**Механізатар жыве ў Новасаматэвічах, штодзень адтуль спяшаецца на работу, але гэта не перашкаджае яму дабівацца добрых вынікаў у працы.**



**На здымку: Уладзімір КРУЖАЕЎ. Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## ЖЫЛЛЯ СТАНОВІЦЦА БОЛЬШ

5 дамоў пад ключ здалі будаўнікі ПМК-260 у вёсцы Прусіна. Узведзены яны за кошт крэдытаў, выдзеленых банкам калгасу "Новае жыццё" для будаўніцтва.

Па словах старшыні калгаса Аляксандра Амельчанкі, жыллё ў першую чаргу будзе выдзелена спецыялістам, бо гаспадарка засталася без галоўных – інжынера, заатэхніка і ветурача.

**Ул. інф.**

## ЗВЕСТКІ
**аб падрыхтоўцы збожжавых камбайнаў у калгасах раёна па стану на 13 ліпеня 2000 года.**

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – наяўнасць збожжаўборачных камбайнаў, трэцяя – спраўных камбайнаў.*

| | | |
|---|---|---|
| імя Калініна | 4 | 3 |
| "Краніштат" | 9 | 6 |
| "Радзіма" | 10 | 7 |
| "Праўда" | 5 | 4 |
| імя К. Маркса | 14 | 9 |
| "Пар. камуна" | 6 | 5 |
| "Расія" | 10 | 5 |
| "Смолькі" | 7 | 5 |
| "Новае жыццё" | 14 | 8 |
| "Прагрэс" | 10 | 7 |
| "Бароньки" | 6 | 4 |
| "Новы быт" | 9 | 5 |
| "Дуброва" | 9 | 5 |
| "Забычанне" | 5 | 3 |
| "Лен. шлях" | 5 | 3 |
| **ПА РАЁНУ:** | **123** | **79** |

# НА АБЛАСНЫМ ЗЛЁЦЕ МОЛАДЗІ

Нядаўна ў Магілёўскім раёне праходзіў абласны злёт удзельнікаў паходу па месцах баявой славы, прысвечаны 56-й гадавіне Вялікай Перамогі.

У злёце прыняла ўдзел каманда Касцюковіцкай арганізацыі ГА БПСМ, якую ўзначаліла начальнік аддзела па рабоце з першчнымі арганізацыямі райкама Наталля Валоўнікава. Мерапрыемства пачалося з урачыстага адкрыцця каля мемарыяльнага комплекса "Зямлянка".

У рамках злёту былі праведзены спаборніцтвы і конкурсы, дзе ўдзельнікам яго давялося паказаць узровень патрыятычнага выхавання моладзі, выканаць патрыятычныя песні, раскрыць творчыя, мастацкія здольнасці, афармляць насценную газету, прадставіць эмблему каманды, уладкоўваць быт у палявых умовах. І тут варта адзначыць, што наша каманда ў апошнім конкурсе была на вышыні. Ёй прысуджана другое месца.

У спартыўным арыентаванні больш пільныя паказалі сябе Анатоль Дычанскі і Вольга Даніленка, а ў імправізаваным турыстычным паходзе добра справіліся Віктар Шкробаў, Алена Старавойтава і Вольга Ячнева. Уладзімір Федасенка, Аляксандр Васькоўскі і Дзмітрый Мацянка паказалі свае здольнасці ў ваенізаванай эстафеце.

**Ул. інф.**

